# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.
Рукапісы павінны быць перапісаны чытальна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.
Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.
Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.
РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:
за 1 радок за тэкстам - 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 19. Менск, Панядзелак 6 кастрычніка 1919 г. № 19.


**На гэтых днех адчыняюцца Беларускіе курсы для настаунікау Меншчыны. Запіс на курсы адбываецца штодня, у Беларускай Школьнай Радзе, (Захарауская вул., 6. Юбілейны Дом) ад 11—2 гадзін і ад 5—7 у вечары.**

Кіраунічы курсамі *Я. Лесік.*

*Менск. 6 кастрычніка.*

У той час, як у цэнтры Беларусі паміж польскай уладай і беларускімі палітычнымі кругамі наладжваецца контакт і некая супольная праца, у гэты час з провінцыі надыходзяць трывожные весткі. Там паразуменьня паміж польскімі урадні̇камі і мясцовым насяленьнем няма: няма і тых прыязных, людзкіх адносін, якіе-б, здаецца, павінны былі быць пасьле безшабашнага крывавага панаваньня бальшавікоу. На Беларусі няма таго чалавека, апрача хіба злодзея, которы-б шкадавау тых дзен, якіе пражыу ен пад маскоускім панаваньнем; беларускі народ глыбока удзячан таму, хто збавіу яго ад бальшавіцкага страхоцьця, але не даводзілося нам чуць, каб вясковы тубылец выказау задавальненьне тым, што цяпер робіцца на весках. Можна сьмела сказаць, што адносіны насяленьня да польскай улады на мясцох бязумоуна няпрыхільные. Гэта асабліва трывожна, калі прыняць пад увагу, што час вымагае бязумоунага ладу і згоды; гэта вельмі трывожна яшчэ і таму, што на Беларусь кваляцца усе расійскіе сілы, каторые і пры патрэбнай згодзе пастараліся-б пасеяць нязгоду, каб выкарыстаць потым дзеле сваіх захватных плянау.

Польскіе урадні̇кі на провінцыі абсолютна неразумеюць, дзе ім прыходзіцца служыць, і абсолютна ня лічацца з Беларускім насяленьнем. Яны разглядаюць Беларусь, як польскую землю, і на усе пазіраюць вачыма звычайнага шовіністы, каторы ніяк ня можа уясьніць сабе, чаму кругом яго жывуць не палякі, а некі іншы народ. Адгэтуль — непаразуменьні, нязгода і варажнеча. Асабліва ж кепска тое, што пасады провінцыяльных урадні̇кау пазаймалі тые людзі з панскага стану, на каторых народ прывык гэядзець, як на сваіх няпрыхільнікау.

Само сабою разумеецца, што усім гэтым карыстаюць беларускіе адшчапенцы, каб яшчэ больш раздзьмухаць нязгоду, каб пасеяць варажнечу да Польшчы і вабіць яго да Маскоушчыны. Народ наогул ня любіць рашучых перамен, а калі уяць на увагу, што народная гушча жыве старымі прывычкамі, каторые вяжуць яго з Маскоушчынай, то трэба прызнацца, што, бытцам наумысьля, робіцца усе, каб умацаваць гэты народны нахіл у бок свайго ворага, бо народ жыве цяперашнім, а ня будучынай, а сучаснасьць не дае яму нічога, што тварыло-б добрые адносіны да польскага народу.

## Калі.

*Калі настане сьветлая часіна,*
*Што усе прачнуцца нашы ратаі*
*Сьвяты прамень над нашаю*
*краінай*
*Калі блысьне, калі?*

* * *

*Калі народ наш прыме пад увагу,*
*Што для чужых лівіць ен шмат*
*крыві,*
*Што для чужых ен мае шмат*
*адвагі,*
*А для сябе калі?*

* * *

*Калі і наш сялянін зразумее,*
*Што ен тут сам уладар свае*
*зямлі,*
*Што на сябе павінен мець надзею.*
*Пад свой штандар—калі?*

**Ясакар.**

## Якая у нас інтэлігэнцыя.

Главная моц у справе нацыянальнага адражэньня, главная рухомая сіла культурнага поступу і духоуных здольнасьцяу нацыі, гэта яе родная школа. Калі прыходзіцца глянуць на рост роднай культуры, зьмерыць здабыткі яе і уявіць далейшы яе развой, перш за усе паглядзіш на сілу народнага настауніцтва. Прынамсі, асабліва гэта выразна у развою беларускай нацыянальнай культуры. Бадай увесь нацыянальна-культурны рух дзяржыцца на плячох настаунікау, тых шчырых сыноу сваей радзімы, што першые кінулі кліч да спаняверанных братоу, кліч да самабытнага духоунага жыцьця. І сустрэлі сабе загароду ізноу жа у асобе настауніцтва.

От-жа, усякі працаунік на ніве адраджэньня Бацькаушчыны нашай—Беларусі—павінен зьвярнуць увагу і на гэту працiуную сілу, на яе здольнасьць да росту і да жыцьця і усе, што есьць здольнае, пастарацца выкарыстаць дзеле свайго народу.

Што-ж, запрауды, выяуляе сабою нашае настауніцтвб, вядома усе тое настауніцтво, якое так, ці іначай мае уплыу на народ, а главным чынам на душы малых, яшчэ чыстых ад усякага налету, дзяцей?

Горка прызнацца: нашых шчырых настаунікау мы маем саусім нямнога. Яны усе навідавоку. Ня хочацца гаварыць, чаму яно так, гдзе прычына гэтаму. Гаварылося аб гэтым дауно і многа раз. Нам трэба паглядзець на цяперашняе, разважыць, падумаць і выходзіць з бяды.

Калі гаварыць аб настауніцтве у шырокім значэньні слова, перш за усе кінецца у вочы падзел яго на дзьве часткі: людзі 1) жадаючые роднай культуры і 2) ворагі яе. І на скоры пагляд здаецца, што першые павінны быць правадырамі народу, а другіх трэба ухіліць ад працы і не зьвяртаць на іх увагі. Але, глянуушы на настауніцтво, як на сілу культурную, мы пабачым падзел у другом напрамку. Людзі здольные падымаць народную культуру—гэта нашы супрацоунікі, і людзі нездольные—гэта той тормаз, які запыняе народны рух, гэта папсаваная струна, якая псуе усю музыку. І на бяду гэтых людзей многа больш, як першых. Яны плююць на праудзівую працу, зьневажаюць яе, сьмяюцца і стараюцца нацкаваць на шчырых працаунікоу увесь народ. Бо да змаганьня культурнага яны нездольны. З імі беларускі настаунік не знаходзіць такой супольнай мовы, на якой маглі-б гаварыць. Патрэба пашырэньня роднай культуры і, тым самым, паднятьця самадзейнасьці народу, дзеля іх абсалютна незразумела. Каб зразумець гэта, ім трэба хіба радзіцца другі раз. Альбо хрысьціцца „духам і агнем“ каб увайці у царство нябеснае. Прауда, не аднакую натуру мае гэтая частка людзей і не заусюды яны згодны між сабою.

Між імі многа есьць такіх, што на сваю працу глядзяць проста,

як на усякі заработак, а сябе лічаць далека вышэй за мужыка ужо тым, што ен, моу, настаунік, пане мой, колькі вучыуся, і „не рауня чорнаму мужыку“. Звычайна розум у іх вельмі кароткі, да разьвіцьця няздатны. Што удзяублі некалі яму, тое ен дзяубе другім. Барані Божа, сказаць што-небудзь свае, будзіць у дзяцей сваю думку. Наадварот, асобнасьці дзіцячых натур ен забівае і гоніць іх пад адну мерку. Трэба мець ад уроды многа сілы і здольнасьці, каб ад навукі такога настауніка не застацца вечнаю тупіцаю. Можна сабе уявіць, як ідзе навучаньне у такім разе, калі прыняць пад увагу тое, што дзецям забараняюць выкладаць свае думкі у роднай мове.

Асаблівай цікавасьці падлягаюць тые людзі, якіе захварэлі на невядомую яшчэ, мабыць, псыхіатрыкам нацыянальную хваробу, якую можна было-б назваць „чужая мода“. Пры першым знаемстве з імі здаровага чалавека пашыбае сьмех. Але, разабраушыся добра у іх жыцьці, мы пабачым цяжкую жыцьцевую драму. Усе гэта тые людзі, што адарваліся ад зямлі і не дасталі неба. На землю глядзець яны ня хочуць, а сонцо сьлепіць ім вочы. Тут цэлая капэльля розных Маряу Іванаунау, Мішкау, Ванькау і Прахоркау. За час быцьця у школе яны так „аблагародзяцца“, што, запрауды, здаецца гэта людзі не „ад міра сего“. Ззамаладу іх яшчэ цікавяць цемные аллеі, цяжкіе вохі, глыбокіе уздохі, і скуткі чытаньня сантымэнтальных раманау. Але жыцьце—гэта не сантымэнтальны раман. Яно скруціць усе іх думкі; перад вачамі астанецца пустата. І тагды з чалавека можа выйці усе (вядома толькі добрага нічога), ня выключаючы жуліка. Гэтые людзі вечна шукаюць, каб гдзе „получить развлеченіе.“ Гэта іх спрадвечная скарга на горкую долю „інтэлігэнта“ сярод „цемных людзей“. Мысьлямі заусюды адрываюцца ад зямлі, строюць замкі у паветры. А так як ваздушных замкау і чароуных аллеяу на сьвеце няма, такое „развлеченіе“ скарэй як гдзе, знаходзіцца у Лейбы з буталькаю, альбо у сябра з картамі. А жаночы пол, маючы час, пляце зводы. Вядома, такое жыцьце здаволіць чалавека усе-ж ня можа. Яны заусюды нудзьгуюць, плачуць аб нейкім шчасьці і лепшай долі. Урэшце на усе махне рукою і цьверда скажа. „Ніколі ня было дабра і ня будзе“—тые словы, што мы вельмі часта чуем. Значыцца, калі добрага няма, можна рабіць усякае паскудство. І людзі робяць паскудство, нават і не саромяюцца.

**М—ч.**

## „Дыктатура пролетарыяту“ на Беларусі.

Нядауные нашые апекуны з Маскоушчыны немаль ня кожны дзень на страніцах свaей газэты „Звезда“ разьвівалі безканечные тэоры утвараньня беларускага пролетарыяту з даволі значнае грамады беззямельных памешчыцкіх парабкоу, каб хаця на гэты слой нашае працоунае бедннаты праудзіва абаперціся у сваей політыцы, збудованай на клясавой дыктатуры. Іншых клясау, якіе болей падыйшлі б пад комуністычные экспэрымэнты бальшавікоу, зусім зразумела, шукаць у нас не даводзілося. Каб упэуніцца у гэтым, разгледзім хаця павярхоуна, на якіе слаі клясавые можна больш-менш падзяліць працоуны люд нашае бацькаушчыны. Адсутнасьць, па прызнаньню самых бальшавікоу, фабрычнае прамысловасьці на Беларусі, зусім натуральна не дае магчымасьці гаварыць аб фабрычным работніку, які зьяуляуся бы пролетарыем чыстае вады. Замест фабрычных рабочых, якіх і быць, разумеецца, ня можа, пакуль няма у нас фабрык і заводау, есьць у нас ня мала майстроу, як у больших местах, так і у мястэчках, а часамі навет і у весках: сталярэ, гаршчэчнікі, бандарэ, калесьнікі, кавале і г. д. Абсолютна неорганізованые яны немаль што саусім не пачуваюць сябе солідарнымі, як людзі працы, а наадварот падбіваюць адзін аднаму цану за работу, робячыся гэтакім чынам заузятымі конкурэнтамі. Будучы параскіданымі на розных мейсцах, дзе тэлькі выпадкова трапіцца работа, альбо седзючы у сваіх невялічкіх майстэрнях (калі гэта у вялікім, быуш. губэрнскім горадзе) і чакаючы гэтак сама выпадковых заказчыкау, нашые майстрэ (рэмесленікі) саусім ня маюць часу, (а так сама і прычыны, якая іх да гэтага пабудзіла-б) зыйсьціся разам, з'арганізавацца, каб падумаць грамадой аб тым ці іншым способе паляпшэньня іх беднага работніцкага быту. Самі соцыяльные варункі працы майстроу не даюць, як бачым, повадау да організацыі. Прауда, мы павінны не запомніць яшчэ адзін дэзорганізацыйны фактор—гэта адсутнасьць часамі поуную, інтэлектуальнага разьвіцьця сярод рабочых—майстроу. Пры больш-менш значным паднясеньні іх эдукацыі яны бязумоуна пачалі-б яшчэ больш, як цяпер арганізоувацца у спажыуные (патрэбіцельные) коопэратывы, культурна-прасьветные гурткі і г. д. Хаця пры сучасных умовах і на гэта наурад ці ставала-б часу, скажам, у якога-небудзь сталяра, які, ня маючы пастаяннай работы на мейсцы, вапр. у такім вялікім горадзе, як Менск, мусіць адыходзіць на цэлы тыдзень за некалькі верст на веску, каб вярнуцца дамоу толькі на адзін дзень (сьвято) і, адпачыушы ня цэлые навет суткі, вяртацца пехатою на мейсцо работы ізноу.

Скончыушы работу у адным мейсцы, трэба-ж пакруціць мазгамі, пабегаць, разьведаць, пашукаці яе у другім мейсцы. На усе гэта, як бачым, трэба занадта шмат часу, ня кажучы ужо аб тым, што пасьля цяжкае, тыдневае працы і хады пехатою патрэбна, як мае быць адпачыць.

А калі трапіцца, што невялічкая майстэрня працуе у горадзе, на мейсцы пастаянна, дык ізноу-жа маленькая майстэрня (ня фабрыка) мае роуных сабе конкурэнтау не далей, як на другой, або и тэй самай вуліцы і солідарнасьці паміж такімі майстрамі—гаспадарамі быць ня можа. Кожны такі гаспадар мае некалькіх вучняу (падмайстроу) і, па меры магчымасьці, эксплоатуе працу іх. Расцярушаные па гэткіх маленечкіх майстэрнях вучні-падмайстры, вядучы замкнена і немаль саусім ізолірована працу у цесным крузе „свaей“ майстэрні, ня могуць абьедвацца, як асобны ад гаспадароу кляс, тым болей, што матэрьяльнае палажэньне і соцыяльны быт майстроу і падмайстроу немаль што і нельга адрозьніць. Гэта вядома кожнаму, хто хоць трошкі займауся соцыяльнымі пытаньнямі. Гэта, калі так можна сказаць, адзін з артыкулау эконамічнага закону.

Дык, гэткім чынам, мы даходзім, што нашы майстравы працоуны люд саусім няудзячны матэрьял для бальшавіцкіх опэрацыяу. Прауда да вайны у нас толькі у Беластоку і яго ваколіцах працавало шмат суконных фабрык, дзе былі занятымі больш, як паусотні тысячау фабрычнага пролетарыяту. Але ж гэта немаль адзін толькі прамысловы оазіс на цэлы абшар Беларусі, оазіс, забіты вайною і дасюль яшчэ нежывы. Бравары, цагельні, піва- і медаварні, на якіх працуе на паутара-два дзесяткі чалавек, раздзеленых, да таго ж яшчэ, спэцыяльнасьцю працы кожнага работніка, найчасьцей не пастаяннага а падзеннага, у рахунак ня ідуць, бо гэта тые самые майстэрні, толькі крыху болей разьвітые. Усе спробы бальшавікоу арганізаваць гэгакіх рабочых не асобна па кожным прэдпрыемсцьве, а па праізводнаму прынцыпу пацярпелі няудачу: рабочые замыкаліся у вузкім крузе „свайго“ заводу і не пайшлі далей сваіх кішанковых інтарэсау, дзелючы касу „свайго“ заводу, калі толькі рада народнай гаспадаркі складала паперы для эвакуацыі куды-нібудзь далей ад фронту.

**Крауцоу Макар.**

*(Канец будзе).*

## ДА НАРОДУ УКРАІНСКАГА.

### Ад Ураду Украінскай Народнай Рэспублікі.

Наступам злучаных Наддняпроускіх і Наддняетраускіх украінскіх войск 30 жніуня была узята сталіца Украіны, м. Кіеу.

Расійскіе бальшавікі-комуністы, абараняючы Кіеу ад наступаушых украінскіх войск, адкрылі фронт для родных ім па нацыянальнась-

ці войск гэнэрала Дэнікіна. Дня 31 жніуня часьці расійскай дабравольнай арміі увайшлі у Кіеу, прычым, без папераджэньня напалі на украінскіх казакоу.

Народны Урад Украінскай Рэспублікі ведау пра барацьбу войск Дэнікіна з комуністамі на тэрыторыі Украіны і уважаючы, што абавязкам кожнага ураду есьць сьцерагчы народвую кроу, хацеу мірным шляхам разьвязаць справу з войскамі гэнэрала Дэнікіна.

З ведама Ураду, што да узяцьця Кіева, нашым вышэйшым Камандаваньнем была выслана вайсковая дэлегацыя да каманды дабравольнай арміі у справе устанауленьня узаема-адносін між войскамі, якіе боруцца проці комуністаубальшавікоу на тэрыторыі Украіны.

Заходы Ураду ня мелі усьпеху. Камандаваньне часьцін дабравольнай арміі заявіло, што войскі, якіе бьюцца пад камандаю галоунага атамана Петлюры, есьць бальшавікамі і што дабравольная армія будзе весьці вайну з войскам Народнай Рэспублікі.

Урад Украінскай Народнай Рэспублікі заяуляе усім грамадзянам Украіны, што ен веу барацьбу з чужаземнаю сілаю расійскіх комуністау за землю і волю ды добрабыт нашага народу у незалежнай ды самабытнай Украінскай Народнай Рэспубліцы. Калі цяпер камандзіры Дэнікінавай арміі, посьле доугай нашай крывавай барацьбы з бальшавікамі, называюць нас, усю нашую слауную армію, увесь украінскі народ бальшавікамі і пахваляюцца, што будуць весьці вайну з намі, то Народны Урад Украіны мусіць голасна заявіць свой протэст проці такіх замерау камандуючых кругоу дэнікінскай арміі.

Няхай ведаюць усе, што Урад Украінскай Народнай Рэспублікі не дапусьціць да парушэньня найсьвяцейшага права вольнага самавызначэньня Украінскага Народу.

Украінскі народ мае умацаваць ужо ня раз выслауленую сваю волю у усенародна выбраным парлямэнце (Устаноучы Сойм) Украіны, і дзеле таго ніхто з чужынцау ня сьмее накідаць нашаму народу сваю волю.

Народзе Украіны! Настау рашучы час, калі мае вырашыцца надоуга твая доля. Ці будзе украінскі народ вольным і роуным з другімі народамі,—ці стане ен бязмоуным рабом-нявольнікам сваіх суседау, гноем, на якім будуць расьці пышные кветкі чужой культуры і разьвівацца багацьці расійскіх памешчыкау.

Украінскі Народны Урад хоча бачыць свой народ вызваленым спад ярма чужынцау. Усе сілы пакладае, каб зрабіць гэта мірным шляхам І калі пральецца кроу, то не па нашай віне, а па віне прагавітых імпэрыялістау і памешчыкау бышай вялікай Расіі, каторые, ня скончыушы навет барацьбы з комуністамі-бальшавікамі, дзеля сваіх эгоістычных інтарэсау нападаюць на нашае войско, хочучы запанаваць над украінскім народам.

Народны Урад верыць, што увесь украінскі народ, бяз розьніцы клясы і уся шчырая дэмократыя іншых нацыянальнасьцяу, якіе засяляюць Украіну, падтрымаюць свой Урад у яго жаданьні дабіцца вызваленьня Украінскай Зямлі і абараніцца ад тых нашых суседау, каторые захацелі-б устанавіць сваю уладу на зямлі Украінскай Народнай Рэспублікі.

Галава Рады Народных Міністрау **І. Мазэпа.**

Дзяржауны Пісар **А. Шрамчэнка.**

# Маленькі фэльетон.

**Мары „вялікага“ дзеяча.**

—Эх, народ! Чэрві, мошкі. Што рабіць з ім?.. Горка жыць на сьвеце ідэйным людзям!—сказау Мікіта Гаварун, кладучыся на голы палок.

Яшчэ нядауна важна, з гонарам хадзіу ен па месьце і пры гля даучыся, ці паважаюць яго людзі. А сягоньня?.. Нікому не патрэбны! Адзін адзінюткі на голым палку!

Горкіе думы абступілі Мікіту, здушылі горло.

— Хоць-бы у сьне убачыць сьветлую часіну, — закрычау ен і, упершыся лобам у халодную дошку, пачау драмаць.

Здаецца Мікіце:

Сядзіць ен на балконе высокага палацу. На дварэ—няшчысьленае множаство людзей. Усе яны плешчуць у далонькі, падкідаюць у гору шапкі—вітаюць Мікіту. Адвярнууся ен у другі бок. Перад ім стаіць стол увесь на пупкох. Як націсьнеш у каторы з іх, так і пацячэ само віно у рот. Ды якога там пітва ня было! Чырвоные, чорные, зяленые, салодкіе, кіслые. А там далей пашлі сталы бяз конца. За сталамі сядзяць людзі з важнымі мінамі, у акулярах; граюць у карты, спрачаюцца і моцна гамоняць.

Мікіта соладка зачамкау губамі. Але... заміж віна злавіу муху.

— Ох, ох, ох,—цяжка уздыхнуу Мікіта і павярнууся у другі бок. І зноу здаецца яму:

Прачываецца ен негдзе у невядомым мейсцы. І проста самому ня верыцца: убраньне такое, што і цары не насілі. Срэбро і золата толькі пераліваецца на сонцы.

— Гэй вы!—крыкнуу Мікіта.

Раптам падбеглі слугі, узялі пад рукі і павялі. Уваходзяць у вароты вялікага места. Перад імі вялікі пляц, увесь запоунены народам. Як убачылі людзі Мікіту усе у адзін голас закрычалі.

— Ты наш цар, ты наш Бог,—і пакланіліся.

Мікіта падняу руку, нешта хацеу сказаць, але прачнууся.

Рука апусьцілася на пустую бутэльку ад піва. **А. Г.**

# Гандлевы рух у Варшаве.

Дзякуючы асвабаджэньню ад бальшавіцкай навалы значнай часьці Літвы і Беларусі з Палесьсем, неабходнасьць і патрэба у таварах і рэчах першай патрэбы вельмі павялічыліся і цэны значна падскочылі у гару за апошніе два тыдні. Апроч таго ударажэньне валюты адбіваецца на павялічэньні цэн усялякіх таварау, напрыклад у гандлю кальоніяльным:

| | | |
|---|---|---|
| гарбата | за кіло | 40 марок. |
| перац | „ фунт | 18 „ |
| кава | „ „ | 16 „ |
| какао | „ „ | 18 „ |

Прывоз таварау мануфактурных з заграніцы з кожным днем павялічываецца і калі цэны на легкіе палатняные тавары паніжаліся, цана на зімовые рэчы падскочыла моцна.

Ажнушы жывы рух пануе у крамах дробнай прадажы:

аксаміт 14 мар. за арш.
флянэля 17 „ „
заграчічная папяровая тканіна 120 мар. за арш.
ангельская паперовая тканіна 180 мар. за арш.

Цана на скуры і ніткі у апошнім тыдні спала з прычыны падвозу іх з Нямеччыны. У гурце фунт скуры каштавау 50 марак, а купцоу на скуру юхтовую зусім няма. Ніткі патанелі у цане ад 10 да 15%. Хімічные прадукты і хварбы дзеля ударажэньня валюты падняліся у гару на 50%. Праз недахват вугля павялічылася патрэба у дрэве і пуд дрэва ужо цяпер каштуе 3 маркі.

Фрукты: грушы і яблыкі 1 м. за фунт.

| | | |
|---|---|---|
| сьлівкі | 1.50—3.00 | фунт. |
| памаранчы | 5.00—6.00 | штука. |
| цытроны | 0.30—0.40 | „ |
| гарэхі | 2.50 | фунт. |

Даецца заувважыць шаленую даражыню спажыучых прадуктау. Калі у мінулым року пасьля жніва цэны былі зьніжаны, то сёлета падскочылі так, што пуд пшанічнай мукі—200 марак. Пуд жытняй мукі—140 марак.

Варшаускіе фабрыкі проста завалены заказамі на сьвечы для Беларусі і Літвы; парафінавые сьвечы за 1 пуд 120 марак.

**Д. Стэйнбак.**

# У САВЕЦКАЙ РАСІІ.

**Весткі з Смаленску.**

Рэдакцыя можа падзяліцца з чытачамі весткамі з Смаленску, якіе мы адтрымалі ад чалавека, каторы выехау адтуль 27 верасьня:

Нядауные нашые „Літоуска-Беларускіе гаспадары“—Кальмановічы, Капсукасы і інш. сядзяць у Смаленску і займаюцца ліквідацыяй сваіх спрау. „Рада народных Камісарау Літвы і Беларусі“ зьліквідавалася. Ліквідацыйнай Камісіяй кіруе Халецкі.

Бышые нашые „таварышы,—камісары“ разбрыліся хто куды.—Кальмановіч сядзіць у Рэвваен. Савеце

